**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№1(665)**
**3 студзеня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

## *Са святам Ражства Хрыстова!*





*Фота Ул. Скрабатуна.*

# Чаму мы святкуем Новы Год?

**Амаль усе людзі ў нашай краіне святкуюць Новы Год. А чаму? Ці задавалі мы сабе калі-небудзь гэтае пытанне: што мы святкуем?**

Зразумела, што Новы Год – гэта час забаваў і танцаў, гірляндаў, агней і пятардаў, але ці памятаем, што святкаванне Новага Года мае выключна хрысціянскую традыцыю і сэнс?

У заходняй Літургіі 31 снежня ўспамінаецца Святы Айцец Сільвестр І (пам. 335 г.)., аднак традыцыя святкавання Новага Года звязана з асобай Святога Айца Сільвестра ІІ, які жыў у 945–1003 гг.

Дык вось, традыцыя святкавання Новага Года распачалася ў 1000 годзе. Паводле прароцтва Сібіллі лічылася, што канец свету наступіць 31 снежня 999 года. Гэтая дата была падчас пантыфікату Сільвестра ІІ (2 красавіка 999 – 12 мая 1003).

Уявіце сабе, што тысячы жыхароў з розных краін Еўропы прыйшлі ў Рым на плошчу святога Пятра, каб сустрэць канец свету. Усе маліліся і прасілі ў Бога міласэрнасці і прабачэння за грахі. Стрэлкі гадзінніка набліжаліся да поўначы… Гадзіннік прабіў 12 і … Наступіў новы дзень. Усе былі збянтэжаныя.

Святы Айцец Сільвестр ІІ выйшаў на балкон базылікі, удзяліў упершыню ўрачыстае благаслаўленне Urbi et Orbi (гораду і свету) і сказаў: "Радуйцеся і весяліцеся!!! Бог дае нам яшчэ адзін год!".

І так, з года ў год, мы чакаем Новага Году. У розных народаў узніклі свае звычаі святкавання, аднак сэнс не змяніўся. Мы маем час кожнага году, каб зрабіць нашае жыццё лепшым, штосьці змяніць у нашым жыцці і наблізіцца да Бога. Складаем адзін аднаму пажаданні і віншуем з Новым Годам і заўсёды спадзяёмся, што ў новым годзе ў нас будзе поспех і шчасце.

Што прынясе нам новы год – не ведаем, аднак кожны год мы з радасцю святкуем Новы год, які наступае,і хочам памятаць, што Бог дае нам яшчэ час, каб мы падрыхтаваліся да сустрэчы з Ім – мэтай нашага жыцця.

***Падрыхтаваў кс. Аляксей Юркайць.***

# За студзень-лістапад колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася на 4,5 тыс.

**За студзень-лістапад 2012 года колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася на 4,5 тыс. чалавек. На 1 снежня 2012 года ў краіне пражывала 9 млн. 460,7 тыс. чалавек, паведамілі ў Белстаце.**

У Мінску за 11 месяцаў гэтага года колькасць насельніцтва павялічылася з 1 млн. 885,1 тыс. да 1 млн. 904,3 тыс., у той час як у астатніх рэгіёнах краіны гэты паказчык знізіўся.

У прыватнасці, у Гомельскай вобласці на 1 снежня 2012 года налічвалася 1 млн. 429,7 тыс. жыхароў (на 1 студзеня 2012 года — 1 млн. 429,7 тыс.); Мінскай — 1 млн. 399,2 тыс. (1 млн. 403,6 тыс.); Віцебскай — 1 млн. 208,1 тыс. (1 млн. 214,1 тыс.); Магілёўскай — 1 млн. 75,6 тыс. (1 млн. 80,1 тыс.); Гродзенскай — 1 млн. 61,2 тыс. (1 млн. 61,2 тыс.), Брэсцкай вобласці — 1 млн. 388,6 тыс. (1 млн. 391,4 тыс.).

За студзень-лістапад 2012 года ў Беларусі нарадзілася 105 тыс. 736 дзяцей (на 5 тыс. 781 больш у параўнанні са студзенем-лістападам 2011 года), памерла 115 тыс. 446 чалавек (на 9 тыс. 43 менш). Натуральныя страты склалі 9 тыс. 710 чалавек.

Колькасць зарэгістраваных шлюбаў паменшылася на 11,7% (да 72 тыс. 900), разводаў павялічылася — на 3,7% (35 тыс. 895). На тысячу рэгіструемых шлюбаў прыпадала 492 разводы, у той час як за студзень-лістапад 2011 года — 419.

Міграцыйны прырост у студзені—кастрычніку 2012 года ў параўнанні з аналагічным перыядам 2011 года знізіўся на 43,1% і склаў 5.286 чалавек. Станоўчае сальда міграцыі паменшыла натуральныя страты насельніцтва на 54,4% (за студзень—лістапад 2011 года — на 37,9%).

***Марына Носава, БелаПАН.***

## Браслаўскі раён

# Ад кількі да гатовых абедаў

■ Станіслаў Раманчук

**Праблема абнаўлення вытворчасці з арыентацыяй на мясцовую сыравіну – зараз найбольш актуальная для глыбінкі.**

Вось і ў Браслаўскім раёне цяпер праводзяць вялікую мадэрнізацыю на двух мясцовых прадпрыемствах і ўжо стала не пазнаць філіял Глыбоцкага МКК, дзе ўжо можна выпускаць да 12 тон цвёрдых і мяккіх сыроў у суткі. Маштабнае тэхпераснашчэнне ідзе ў райцэнтры таксама і на адзіным ў Беларусі цэху-заводзе па вытворчасці рыбных кансерваў "Браслаўрыба". На ім пачалі ўстаноўку новых закатачных ліній, сучаснага халадзільнага абсталявання. Асартымент выпускаемых браслаўчанамі кансерваў з рыбы не толькі павялічыцца да 70 найменняў, але і яны будуць выпускацца ў бляшанках "Hansa" са зручным для адкрывання ключом. Але на прадпрыемстве пайшлі далей і асвоілі ўнікальную пакуль у нашай краіне вытворчасць гатовых замарожаных "Лёгкіх абедаў" з розных відаў рыбы. У папулярных за мяжой пластыкавых латках стануць выпускаць тут акрамя гарніра з бульбы альбо макарон рыбу з кусочкамі і рознымі соусамі, гароднінай. Такую страву лёгка разагрэць у мікрахвалевай печцы і са смакам можна будзе паабедаць у офісе, школьнай сталовай, вагонерэстаране і нават на борце самалёта. Невыпадкова навінкай браслаўчан адразу зацікавіліся буйныя гандлёвыя сеткі Расіі, дзе яшчэ няма падобнай вытворчасці. Не губляюць надзеі на прадпрыемстве і аднавіць выпуск айчынных шпротаў у масле, калі ўдасца дамовіцца з латышамі і рускімі аб пастаўках патрэбнай рыбы.

## Верхнядзвінскі раён

# Курс на Еўропу

■ Чэслаў Якубовіч

**Не сакрэт, што беларускія прадукты харчавання запатрабаваны ў асноўным на расійскіх прасторах, а вось прабіцца на еўрапейскія рынкі нам складана.**

А вось на адным з самых сучасных у галіне ААТ "Верхнядзвінскі масласырзавод" ужо далёка прасунуліся ў гэтым накірунку. Першыя пробныя партыі сваёй прадукцыі завадчане напрыканцы года адправілі на выставу-кірмаш у суседнюю Латвію. Для гэтага мінулым летам у ліку першых у Беларусі завод атрымаў адпаведныя сертыфікаты якасці і бяспекі прадуктаў, прынятыя ў дзяржавах Еўрасаюза. Ды і асноўны брэнд прадпрыемства – добры майстра сырных спраў Ян- сыраробпрыкметна памаладзеў і стаў нават крыху ўсміхацца па-добраму праз сваю сівую бараду. А галоўнае, што ў завадчан цяпер ёсць высакаякасная і смачная прадукцыя, якая можа задаволіць густы самых патрабавальных пакупнікоў. Спецыялісты гэтага масласырзавода прывезлі дамоў з буйной міжнароднай спецыялізаванай выставы "Залатая восень-2012" у Маскве два залатыя медалі за свае навінкі. Такія ўзнагароды атрымалі элітныя гатункі – паўцвёрды сыр "Манарх" і галандскі сыр "Гауда". На заводзе спадзяюцца, што попытам у айчынных і замежных спажыўцоў будуць карыстацца яшчэ таксама новыя распрацоўкі – вэнджаныя сыры ў вакуумнай упакоўцы з натуральнага малака. У далейшых планах выпускаць іх у навейшых вакуумных пакетах дой-паке са спецыяльнай шпількай. Тэхнолагі завода, якому пайшоў дзявяты дзясятак, працуюць над асваеннем у сябе і папулярных гатункаў італьянскіх, галандскіх і швейцарскіх сыроў эммента́ль, якія да спадобы многім на кантыненце.

## Пастаўскі раён

# Вось гэта дэбют !

■ Кастусь Александровіч

**Адным з прызнаных у Беларусі музычных цэнтраў сталі Паставы невыпадкова, бо нездарма тут ужо два дзесяцігоддзі праводзіцца буйны міжнародны фестываль народнай музыкі.**

Напрыканцы мінулага года высветлілася, што гэты райцэнтр – яшчэ і самы спяваючы ў краіне. Самая маладая ўдзельніца фіналу нацыянальнага тэлеконкурсу на СТБ "Спяваючыя гарады" вучаніца 10 класа мясцовай СШ № 3 Юлія Жыдкая перамагла ўсіх з адрывам у некалькі соцень галасоў. Падчас адборачных тураў па ўсёй краіне ўдзельнічалі тысячы таленавітых выканаўцаў і шанцы маладой дзяўчыны нават спецыялісты ацэньвалі сціпла. У фаварытах былі болей раскручаныя спевакі з Пінска, Бярозы і з Асіповіч. Аднак менавіта беларуская песня "Засталася" з рэпертуару яе куратара на праекце Вікторыі Алешка ў бліскучым выкананні Юлі пакінула найбольшае ўражанне ў сэрцах тэлегледачоў і за яе прагаласавалі 5506 чалавек. Цікава, што родную мову школьніца ведае дрэнна, бо доўгі час жыла і вучылася ў Маскве. У мясцовай узорнай вакальнай студыі "Юніта" Юля займаецца толькі 3 гады, але па прызнанні яе педагога па вакалу Аксаны Нікалаевай, мае цудоўны голас і добрыя перспектывы і на прафесійнай сцэне ў будучым. Пераможца праекту ўсяго за два тыдні вывучыла не толькі словы, але і змагла таленавіта і пераканаўча пражыць гэту песню на гала-канцэрце. Дарэчы, усяго праз некалькі дзён пасля свайго трыумфу дзяўчына зноў была запрошана ў беларускую сталіцу, дзе ёй была прысуджана спецыяльная Нацыянальная музычная прэмія за самы яркі дэбют года.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 03.01.13 | | | | Пятніца 04.01.12 | | | | Субота 05.01.13 | | | | Нядзеля 06.01.11 | | | | Пнд.07.01.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +1 | +2 | +2 | +1 | +1 | +1 | 0 | 0 | 0 | 0 | -2 | -3 | -3 | -4 | -4 | -4 | -4 | -4 |
| Ціск | 745 | 744 | 742 | 739 | 736 | 738 | 741 | 744 | 743 | 741 | 742 | 744 | 745 | 745 | 746 | 748 | 749 | 751 | 754 |
| Вільготнасць | 86 | 86 | 83 | 91 | 91 | 89 | 84 | 87 | 87 | 93 | 82 | 77 | 68 | 75 | 63 | 70 | 64 | 64 | 60 |
| Вецер м/сек | 5 Пд-З | 5 З | 6 З | 4 Пд-З | 4 Пд-У | 4 Пн-У | 4 Пн | 3 Пн | 1 З | 3 З | 8 Пн | 6 Пн | 6 Пн | 6 Пн | 8 Пн | 6 Пн | 5 Пн | 4 Пн | 5 Пн |

# Аб самым надзённым

## ТОЛЬКІ АДЗІН ДЭПУТАТ У ПАРЛАМЕНЦЕ НЕ ПАДТРЫМАЎ ДАВОЛІ ЖОРСТКІЯ НОРМЫ НОВАГА ДЭКРЭТА № 9

■ Аляксандр Цішкевіч

**А самым гучным стала апошнім часам рашэнне беларускага лідара аб увядзенні новага стымулу для паскарэння вырашэння новай задачы – мадэрнізацыі беларускіх заводаў і фабрык, якое матэрыялізавалася хуткім прыняццем Дэкрэта № 9 "Аб дадатковых захадах па развіцці дрэваапрацоўчай прамысловасці".**

Заканчэнне мінулага года прынесла нам не толькі даволі халодную і снежную зіму, але і шэраг гучных разборак кіраўніцтва краіны на асобных айчынных прадпрыемствах. Усё пачалося, як вядома, з наведвання спачатку аб'ектаў айчыннай дрэваапрацоўкі. У ходзе такіх паездак былі звольнены іх многія гендырэктары і кіраўнікі канцэрнаў "Белпаперапрам" , потым - "Беллегпрама", а супраць экс-начальніка "Магілёўдрэва" распачалі яшчэ і крымінальную справу за перавышэнне службовых паўнамоцтваў і зрыў інвестпраекта.

А самым гучным стала апошнім часам рашэнне беларускага лідара аб увядзенні новага стымулу для паскарэння вырашэння новай задачы – мадэрнізацыі беларускіх заводаў і фабрык, якое матэрыялізавалася хуткім прыняццем Дэкрэта № 9 "Аб дадатковых захадах па развіцці дрэваапрацоўчай прамысловасці". З аднаго боку гаворка ў дакуменце ідзе аб асобнай галіне, але, калі разабрацца, спрабуюць жорстка закруціць гайкі паўсюдна і патрабуюць і на іншых прадпрыемствах "працаваць дзень і ноч". А інакш як можна пераламіць сітуацыю, калі быццам на прадпрыемствах пакуль "бязладдзе", шмат дзе намечаныя планы рушацца.

Дарэчы, важнейшыя параметры развіцця Беларусі ў 2012 годзе аказаліся, сапраўды, рэальна правaленымі. Галоўны прагнозны паказчык росту ВУП 5-5,5 % аказаўся лепей у выніку падобным на першапачатковыя лічбы, якія агучыла Міністэрства эканомікі РБ (1,5-2%). Ды і іншага быць не магло, паколькі рост цэн за мінулы год склаў пад 20 % і толькі да 2016 года нам, па разліках спецыялістаў гэтага міністэрства, удасца знізіць гадавую інфляцыю да 6-7 %. Далей болей: высветлілася, са слоў прэзідэнта РБ, што мы і не вырашалі праблему пераходу да рынкавай эканомікі і будуем сацыялізм, што азначае сацыяльна арыентаваную эканоміку.

Але паколькі ўзніклі неспадзяваныя цяжкасці, укладзеныя толькі на дрэваапрацоўку больш 890 млрд. рублёў дзяржпадтрымкі не даюць эфекту, то прыйшла пара беларусам напружыцца, як у ваенные ліхалецце. Нікому нават не трэба падвяргаць сумненню тэрміны заканчэння па пераасначшэнні існуючых вытворчасцей, пасля чаго сярэдняя зарплата работнікаў ужо ў 2015 годзе складзе больш 800 долараў. А ў лідарах, як нам расказваюць і паказваюць, сінявокая Віцебшчына, як напорыста далажыў яе кіраўнік А. Косінец, які вылічыў, што ў снежні ў Прыдзвінні мы павінны былі зарабіць у сярэднім па 580 долараў.

І гэта пры тым, што большасць віцебскіх прадпрыемстваў вельмі закрэдытаваныя, шмат тавараў пылілася на складах і нават нягоднікі калгасы сталі мінусаваць па атрыманні прадукцыі палёў і ферм у параўнанні з мінулагоднім узроўнем. Кіраўнік Беларусі, як высветлілася, ужо разабраўся з зернем, з кукурузай, а таксама з цыбуляй, гарохам, спаржой, але ў еўрапейскай краіне, куды ездзяць людзі, яны павінны бачыць суперсучасныя, еўрапейскага тыпу прадпрыемствы. Аднак, які жах, нават у цэнтры беларускай сталіцы, на тым жа "Камволі" раптам высветлілася, што жанчыны працуюць у цэхах з разбітымі шыбамі.

А яшчэ ў нас застаецца і праблема лёну, з якой трэба разабрацца і вырашыць у чарговай гэтай пяцігодцы. Прэзідэнт цяпер мае намеры асабіста кантраляваць ход выканання яго ных даручэнняў па мадэрнізацыі ўсёй прамысловасці. Пастаўлена і новая задача да 2015 года адрадзіць вырошчванне авечак і калі паспеем, то тысячы людзей атрымаюць добрую працу і цудоўныя заробкі. Самае галоўнае, што наяўрсцяць упушчанае яшчэ можна і трэба паспець. Вось адкуль такія жорсткія і непапулярныя рашэнні, на якія можа коса пагля дзець і Міжнародная арганізацыя працы і ўвесці санкцыі, як у свой час супраць Мьянмы, калі там выкарыстоўвалі прымусовую працу.

У выніку бірманскія таварышы ў той жа Мьянме не толькі аднавілі правы працоўных, але і пачалі палітычную лібералізацыю. Беларусаў, мяркуючы па ўсім, чакае новы 2013 год, поўны новых сюрпрызаў, бо для рабсілы ўзяты курс на жорсткі парадак. Пастаўлены задачы проста грандыёзныя, усе павінны ўдарна працаваць, зімой, вясной, а да лета мець у сябе – ідэальныя прадпрыемствы. За працу, таварышы!

## Дзень за днём

**Сярод краін былога СССР Беларусь летась ізноў стала "лідарам" па росце цэн, а вось у Арменіі, Украіне, Грузіі, Азербайджане інфляцыі не назіралася. Расійская армія памяняе нашы МАЗы на свае грузавікі КамАЗы. У РБ пачалі распрацоўваць закон аб банкрутцтве фізічных асоб, у пэўных выпадках суд стане забіраць іх кватэры, машыны. На службу ў міліцыі, па кантракце ў арміі, КДБ будуць браць толькі членаў БРСМ. Колькасць насельніцтва беларускай сталіцы расце і перавысіла 1,9 млн. мінчан, а вось усе вобласці пакрыху выміраюць. Маштабных, як са скідкамі пад 90 % у Еўропе, святочных распрадаж на Каляды і перад Новым годам у Беларусі не было. Сярод беларусаў на тысячу шлюбаў прыпадае 501 развод.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Са згоды ўрада РФ Савет Антыкрызіснага фонда ЕўрАзЭС выдзеліў вельмі неабходны Беларусі чарговы 4-ты транш крэдыту на суму 440 млн. долараў.

**Егіпет.** Сітуацыя ў Каіры, Александрыі , іншых гарадах сур'ёзна абвастрылася, адбыліся сутычкі з прыхільнікамі братоўмусульман, многія егіпцяне супраць новага фараона Мурсі

**Венесуэла.** Прэзідэнт Уга Чавес прызнаў наяўнасць новай ракавай пухліны і папрасіў народ падтрымаць пераемніка, віцэ-прэзідэнта Н. Мадуру, калі з самім нешта здарыцца.

**ЗША.** Камітэт па правах чалавека ААН пачаў разгляд скаргі экс-кандыдата ў прэзідэнты А. Саннікава на парушэнні закону і катаванні падчас яго арышту і зняволення ў турме.

**Украіна.** Рада аб'яднанай апазіцыі "Бацькаўшчына" вылучыла кандыдатам у прэзідэнты на выбарах 2015 года асуджаную на 7 гадоў зняволення экс-прэм'ера Юлію Цімашэнка.

**Казахстан.** Кіраўнік Нацыянальнага касмічнага агенцтва Т. Мусабаеў паведаміў у парламенце, што краіна паэтапна перастане здаваць у арэнду Расіі комплекс "Байканур".

**Расія.** Абсалютна бесперспектыўнай назваў экс-міністр эканомікі РФ, прафесар Я. Ясін існуючую ў Беларусі сістэму гаспадарання і кіравання, без яе злому там не будзе прагрэсу.

**Японія.** Жыхары краіны зноў перажылі магутны землятрус магнітудай 7,3 балы, які прывёў да ўтварэння цунамі, былі паранены 9 чалавек, штуршкі адчулі і японскія АЭС.

**ЗША.** Адна з кампаній Тэхаса распрацавала ўнікальны метад выпечкі новага гатунку хлеба, які не пакрываецца цвіллю на працягу 60 дзён, тэрмін захоўвання звычайнага хлеба 10 дзён.

**Англія.** Улады краіны далі палітычны прытулак сыну былога прэзідэнта Кыргыстана Максіму Бакіеву, які звергнуты бацька раней знайшоў сабе прытулак у Беларусі.

**Балгарыя.** Краіна, па дадзеных Еўрастата, аказалася самай беднай у ЕС, амаль 49 % балгар жывуць на мяжы галечы, зарабляючы ў сярэднім крыху больш 320 еўра ў месяц.

**Польшча.** Сусветна вядомы абраз Маці Божай Чанстахоўскай спрабаваў запэцкаць фарбай 58-гадовы вандал, святыня не пацярпела, а зламысніка арыштавалі ў кляштары Ясна Гура.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Бенедзікт XVI завёў свой мікраблог у Інтэрнеце і адразу займеў больш паўмільёна сяброў, Святы прэстол пачаў трансляцыі важнейшых мес у Інтэрнеце.

**КНДР**. Адна з самых бедных краін свету патраціла за год 120 млн. $ на падтрымку культа асобы памерлага Кім Чэн Іра, адных яго вялікіх і малых помнікаў тут звыш 20 тысяч.

**Швейцарыя.** За ўжыванне забароненых прэпаратаў – допінгу МАК пазбавіў беларускіх лёгкаатлетаў І. Ціхана і І. Ятчанку заваяваных імі медалёў на Алімпіядзе-2004 у Афінах.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Баранавічы.** Акцыі стратнага ААТ "Бархім" выставілі на продаж за 7 млн. $, інтарэс да яго праяўляюць дзве замежныя кампаніі, вытворцы сінтэтычных мыйных сродкаў.

**Жлобін.** Еўразійскі банк развіцця даў пазыку Беларускаму металургічнаму заводу ў суме 141 млн. еўра на адкрыццё на мясцовым прадпрыемстве новай вытворчасці дроту.

**Беразіно.** Генпракуратура РБ распачала крымінальную справу супраць буйнога бізнесмена, які атрымаў на сырзаводзе прадукцыі на 300 тыс. $ і не думаў плаціць за яе.

**Смалявічы.** У горадзе-спутніку пачалі будаваць першы з сямі дзетсад для мінчан, акрамя яго сёлета здадуць 9-павярхоўку, на чарзе 15 тысяч кватэр, 4 школы, 2 паліклінікі, кіназал.

**Гомель.** На пагранпункце "Новая Гута" ў жыхара Пскова канфіскавалі незвычайны груз – гадзіннік з былой атамнай лодкі з радыяцыйным фонам у 60 разоў больш нормы.

**Салігорск.** У кватэры рабочага ААТ "Беларуськалій" вечарам у ванным пакоі знайшлі смерць у вадзе 3-гадовая дзяўчынка і гадавалы хлопчык, пад суд пойдзе іх маці.

**Мінск.** Адстаўны міліцэйскі генерал Ю. Сівакоў паскардзіўся, што яго пенсія не дацягвае і да тысячы $, а нізкі дабрабыт людзей ад таго, як намі кіруюць, а не як яны працуюць.

**Гродна.** Галоўным рэдактарам абласной газеты стаў ідэолаг, 39-гадовы гісторык, рускі па нацыянальнасці П. Сухарукаў, які ніколі не працаваў у СМІ, а толькі з імі кантактаваў.

**Мінск.** У знак пратэсту супраць малых зарплат некалькі відэаінжынераў канала "СТБ", працуючых па дагавору, устроілі забастоўку і не выпусцілі ў эфір выпускі навін спорту.

**Брэст.** Чацвёра в'етнамцаў без дакументаў спрабавалі перабрацца ў Польшчу на пункце пропуску "Казловічы", іх выявілі на запасных калёсах пад паўпрыцэпам польскай фуры.

**Мінск.** Першая ракетка свету 23-гадовая Вікторыя Азаранка зарабіла за сезон амаль 8 млн. $ прызавых і паведаміла, што пакінула сябра, 25-гадовага тэнісіста С. Бубку-малодшага.

**Магілёў.** Шок у школах абласнога цэнтра выклікаў факт гібелі вучня 6-га класа, лепшага ў сваім класе з паспяховай сям'і, які выскачыў з акна 7-га паверха кватэры і разбіўся.

**Мінск.** На пачатак лета перанеслі продаж білетаў на матчы чэмпіянату свету-2014 па хакеі коштам у сярэднім ад 7 да 69 еўра, на рашаючыя сустрэчы квіткі будуць да 250 еўра.

**Клецк.** За рэкордную для глыбінкі суму, больш 1 млрд. рублёў інвестар набыў у райцэнтры 36 сотак зямлі, тут ён пабудуе да 2014 года новы сучасны супермаркет.

**Барысаў.** Банк развіцця РБ выдзеліў неабходныя сродкі для завяршэння ў 2013 годзе новага сучаснага футбольнага стадыёна з трыбунамі на 12 тысяч месц для ФК "БАТЭ".

# Бюджэтнікам падвышаюць заробкі



■ БелаПАН

**З 1 студзеня 2013 года тарыфная стаўка першага разраду для аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый і іншых арганізацый, якія атрымліваюць субсідыі, работнікі якіх прыраўнаваны па аплаце працы да работнікаў бюджэтных арганізацый павялічыцца на 15 000 рублёў і будзе складаць 240 000 рублёў.**

Адпаведнае рашэнне прынята пастановай Савета Міністраў ад 28 снежня 2012 № 1230.

Гэта пастанова прынята ў мэтах далейшага павышэння ўзроўню аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый, пакупніцкай здольнасці іх заработнай платы, а таксама частковага аднаўлення дыферэнцыяцыі ў аплаце працы работнікаў названай сферы,— паведамляецца ў прэс-рэлізе.

Мяркуецца, што рэалізацыя пастановы дасць магчымасць павысіць заработную плату па бюджэтнай сферы ў сярэднім на 6,7%.

Адначасова з павышэннем тарыфнай стаўкі першага разраду зменяцца памеры карэкціруючых каэфіцыентаў, што прымяняюцца да тарыфных ставак (акладаў) работнікаў, якія тарыфікуюцца 11 - 21 разрадамі. Адпаведнае рашэнне па гэтым пытанні ў бліжэйшы час будзе прынята Мінпрацы і сацабароны. Такое ўдасканаленне дасць магчымасць узмацніць дыферэнцыяцыю ў аплаце працы работнікаў бюджэтнай сферы.

# Цыгарэты з 1 студзеня падаражэюць на 20%

**У Беларусі з 1 студзеня 2013 года больш як на 20% павышаюцца цэны на асобныя маркі цыгарэт як выраблены ў рэспубліцы, так і імпартаваных.**

Аб гэтым паведамілі ў Міністэрстве па падатках і зборах.

Так, цыгарэты вытворчасці ГТФ «Нёман» «Фэст» падаражэюць на Br1 200 да Br4 700 за пачак. Kent стане даражэйшы на Br1 500 (да Br12 500), VIP 8 і VIP 10 — на Br2 300 (да Br7500)

«Карона» вытворчасці ТАА «Тытунь-інвест» прыбавіць у цане Br1100 (да Br4 600), Winston — Br1 300–1 500 (да Br10 500), West падаражэе на Br2 300 да Br9 500.

З пачатку 2012 года максімальныя рознічныя цэны на цыгарэты ў Беларусі ўстанаўліваюцца штомесяц.

Таксама з 1 студзеня 2013 года значна павышаюцца стаўкі акцызаў на тытунёвыя вырабы. Раней беларускі бок неаднаразова заяўляў аб планах паступовага павышэння ставак акцызаў на алкаголь і тытунь да расійскага ўзроўню.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Вобласць атрымала ад урада РБ заданне атрымаць у 2013 годзе 1,69 млн. тон зерня, сабраць 58 тыс. тон льнотрасты, 300 тыс. тон гароднiны, 1 млн. 60 тыс. тон бульбы.

**Орша.** Знос асноўнага абсталявання мясцовага інструментальнага завода ўжо 90 %, у вобласці мадэрнізацыі чакаюць большасць састарэлых заводаў рэспубліканскага значэння.

**Браслаў.** Да канца года павінны завяршыць рэканструкцыю рыбнага завода ў райцэнтры за кошт крэдытаў Банка развіцця РБ з выхадам на 16,2 млн. кансервных бляшанак штогод.

**Глыбокае.** На адным з буйнейшых у Беларусі малочнакансервавым камбінаце знос абсталявання дасягнуў 75 %, што стрымлівае яго далейшае развіццё і рост аб'ёмаў прадаж

**Паставы.** З-за старэння насельніцтва ў раёне летась у палі агульнага севазвароту ўключылі яшчэ 897 гектараў прысядзібных участкаў вяскоўцаў, у іх на падворках 500 коз.

**Лепель.** Падчас чарговай аперацыі "Арсенал" жыхары раёна добраахвотна здалі ў міліцыю газавы пісталет і 47 адзінак боепрыпасаў, былі канфіскавана стрэльба і 2 снарады вайны.

**Падсвілле.** Мясцовая паэтэса Марыя Баравік выйграла літаратурны конкурс твораў для дзяцей, яе казкі на беларускай мове ўзяў у рэпертуар Беларускі тэатр "Лялька" з Віцебска.

**Талачын.** Старшакласнік Уладзімір Андрыенка разам з двума сябрамі з райцэнтра адкрылі ўласны бізнес па вырабе каляровых паштовак пры падтрымцы фірмы Postcard of Dream.

**Полацк.** Ля вёскі Азіна ў машыне жыхаркі Ленінградскай вобласці знайшлі 750 літраў спіртнога без дакументаў, а ў лясным масіве ў згарэлым шалашы - труп беспрацоўнага.

**Шаркаўшчына.** Да радасці жыхароў вёскі Жукоўшчына з дапамогай улад раёна і праўлення ААТ "Васюкі" адрамантавалі сельскі клуб, які пацярпеў восенню ад пажару.

**Віцебск.** Як палілі і знішчалі перад прыездам А. Лукашэнкі дамы былой прыгараднай вёскі Паўловічы расказаў у адным з сюжэтаў і кругласутачны тэлеканал "Расія-24".

**Ушачы.** Без аўтамабіля і надуўной лодкі засталіся двое жыхароў райцэнтра, якія былі канфіскаваны ў іх судом у кошт пагашэння амаль 17 млн. рублёў штрафу за браканьерства

**Наваполацк.** З пасады галоўнага трэнера ФК "Нафтан" рашыў пайсці Ігар Кавалевіч, які летась прывёў сваю каманду да выйгрышу ў другі раз Кубка Беларусі па футболе.

**Глыбокае.** Фіналісткі музычнага тэлеконкурсу "Поющие города" Жанна Нарыцына і Тацяна Кітова заключылі кантракт на 5 гадоў з тэлеканалам СТБ для ўдзелу ў канцэртах.

**Віцебск.** Яшчэ трое лідараў пакінулі з-за мізерных зарплат баскетбольны клуб "Рубон" услед за 8-мю вопытных ігракоў, каманду паабяцаў падтрымаць глава вобласці А. Косінец

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Такой весялосці на выставах яшчэ не даводзілася бачыць

■ Ада Райчонак

26 снежня ў Віцебскім музеі мастацтва адчынілася выстава, прысвечаная памяці сусветна вядомага пісьменніка Васіля Быкава. Яна з'явілася вынікам працы мастакоў, якія прадстаўлялі амаль усе рэгіёны краіны. Імпрэза пачалася з выступу Акуневіч Вольгі Іванаўны дырэктара музея мастацтва, якая распавяла прысутным (а іх было сотні паўтары, а можа і больш) аб значэнні Васіля Уладзіміравіча ў Беларускім мастацтве. Яна высока ацаніла мастацкія працы, прадстаўленыя на выставе. Аб натхняючай сіле быкаўскага таленту казалі мастакі, удзельнікі драздовіцкага пленэру, які праходзіў у жніўні ў Бычках і быў прысвечаны любімаму пісьменніку. Святлана Баранкоўская, Чэслаў Шамшур, Уладзімір Вальноў, Міхась Цыбульскі., Алесь Саўчанка. Шмат было партрэтаў пісьменніка. І кожны з іх па–свойму падаваў асобу Быкава. З вялікім мастацкім густам былі прадстаўлены родныя быкаўскія мясціны, яго сваякі. Упрыгожылі свята і лепельскія музыкі пад кіраўніцтвам таленавітага музыкі і арганізатара Васіля Шкіндзера. Дзяўчаты з вакальнага гурта ,,Поўнач" праспявалі народныя песні і арганізавалі старадаўнія танцы пад дуду і бубен. Тут і ляніві ўстаяць не мог. У скокі пусціліся і старыя і маладыя. Такой весялосці на выставах мне яшчэ не даводзілася бачыць. Развітваючыся з намі, наведвальнікі дзякавалі арганізатарам і казалі, што такой выставы і такога адкрыцця яшчэ не было. Гэта і ёсць вышэйшая ацэнка нашай дзейнасці. Пасля такога хочацца жыць і працаваць яшчэ лепш.



# Пачалося бурэнне самай глыбокай у Беларусі пошукава-разведачнай свідравіны

**У Рэчыцкім раёне (Гомельская вобласць) спецыялісты ДВА «Беларуснафта» пачалі бурэнне самай глыбокай у краіне пошукава-разведачнай свідравіны. Яе праектная глыбіня — 6.680 метраў, паведамляецца на сайце дзяржаўнага вытворчага аб'яднання.**

Мэта бурэння — ацаніць перспектывы нафтагазаноснасці падсолевага і верхнепратэразойнага комплексаў у межах Прадрэчыцкай міжсолевай пасткі. Апрача таго, 1-я Прадрэчыцкая свідравіна дазволіць вырашыць шэраг важных геалагічных задач, такіх як даследаванне гідрагеалагічных і гідрадынамічных умоў разрэзу, вывучэнне характару насычэння калектараў пластавымі флюідамі і распаўсюджання парод-калектараў па плошчы і разрэзе.

Свідравіна будзе самай глыбокай не толькі ў Беларусі. Аналагаў ёй няма і на прасторы СНД. У Расіі існуюць свідравіны такой працяглсці, але яны гарызантальныя. А 1-я Прадрэчыцкая будзе нахілена-скіраванай, практычна вертыкальнай — вугал адхілення 470 метраў.

*В. Будкевіч, БелаПАН.*

# Нэтбукаў больш не будзе

## А Вы карысталіся імі?



**Апошнія дзве кампаніі — Acer і Asus — закрываюць вытворчасць.**

Рынак нэтбукаў (ноўтбукаў з экранам 7–12 цаляў, нізкім энергаспажываннем і невялікай вагой) да канца 2012 года будзе закрыты, пасля таго як кампаніі Asus і Acer вырашылі згарнуць выпуск.

Яны заставаліся апошнімі вытворцамі нэтбукаў, і тое перадусім прадавалі сваю прадукцыю ў Паўднёва-Усходняй Азіі і Паўднёвай Амерыцы. Цяпер іх дылеры будуць распрадаваць тыя мадэлі, што засталіся на складах.

Змяншэнне папулярнасці нэтбукаў было выклікана перадусім з'яўленнем рынку планшэтаў.

# Полацкія памежнікі ва ўзаемадзеянні з супрацоўнікамі іншых структур сёлета затрымалі кантрабандных цыгарэт амаль на 5 млрд. рублёў

За 2012 год полацкімі памежнікамі ва ўзаемадзеянні з супрацоўнікамі розных структур затрымана больш за 1 млн. 295 тыс. пачкаў кантрабандных цыгарэт (104 выпадкі) на 4 млрд. 976 млн. рублёў. Пра гэта БелаПАН паведаміў памочнік начальніка Полацкага памежнага атрада Дзяніс Глебка.

Апошняе затрыманне тытунёвай кантрабанды на ўчастку адказнасці атрада адбылося ноччу 29 снежня. У аўтадарожным пункце пропуску «Урбаны» на беларуска-латвійскай мяжы полацкімі памежнікамі сумесна з супрацоўнікамі Браслаўскага мытнага паста пры надглядзе грузавога аўтамабіля «Вольва», што рухаўся з Беларусі ў Латвію, у кабіне і халадзільніку паўпрычэпа былі знойдзены чатыры каробкі цыгарэт (2.000 пачкаў) «Вінстан», «Прэм'ер», «Партал» з беларускімі акцызнымі маркамі. Аўтамабілем кіраваў грамадзянін Латвіі 1968 года нараджэння.

# З 1 студзеня ўваходзіць у дзеянне ўказ аб барацьбе з «псеўдапрадпрымальніцтвам»

**У Беларусі з 1 студзеня 2013 года ўваходзіць у дзеянне ўказ № 488 «Аб некаторых захадах аб папярэджанні незаконнай мінімізацыі сум падатковых абавязацельстваў».**

Ён накіраваны на барацьбу з "псеўдапрадпрымальніцтвам, з нядобрасумленнай канкурэнцыяй, для мінімізацыі рызык добрасумленных арганізацый, прадпрымальнікаў і грамадзян падчас учынення ўгод", паведамляе БелТА.

Уведзенне нормаў гэтага ўказа выклікане «патрэбай пільных захадаў, накіраваных на папярэджанне шэрагу эканамічных правапарушэнняў і крымінальных злачынстваў, якія ўчыняюцца пэўнымі арганізаванымі групамі ў прадпрымальніцкім асяроддзі з выкарыстаннем падстаўных асоб».

Ствараецца рэестр камерцыйных арганізацый і індывідуальных прадпрымальнікаў «з павышанай рызыкай учынення правапарушэнняў у эканамічнай сферы».

Так, у рэестр уключаюцца «звесткі аб юрыдычных асобах або прадпрымальніках, якія былі створаны аўтаматычна (зарэгістраваныя) для ўчынення розных эканамічных злачынстваў. Змяшчаецца інфармацыя аб пакінутых фірмах (офісы зачыненыя, кіраўнікі хаваюцца), арганізацыях, зарэгістраваных на падстаўных асоб».

Але гэтым указам не прадугледжваецца якое-небудзь абмежаванне праваздольнасці суб'екта прадпрымальніцтва, звесткі аб якім унесеныя ў рэестр, г.з. угоды з ім не забараняюцца. Але грамадзяне і юрыдычныя асобы «на стадыі прыняцця пастановы аб укладанні ўгоды змогуць атрымаць звесткі аб пэўнай рэпутацыі контрагента».

# Дзярждоўг Беларусі за студзень-лістапад узрос на 5,5% да Br122,8 трлн.

**Дзяржаўны доўг Беларусі на 1 снежня 2012 года склаў Br122,8 трлн. і павялічыўся ў параўнанні з пачаткам 2012 года на Br6,5 трлн., або на 5,5%.**

«Павелічэнне дзяржаўнага доўгу за лістапад абумоўлена ростам як унутранага, так і знешняга доўгу», — растлумачылі ў міністэрстве.

Унутраны дзяржаўны доўг з пачатку 2012 года павялічыўся на Br1,3 трлн., па стану на 1 снежня 2012 года, склаўшы Br19,1 трлн. пры ўстаноўленым ліміце Br34 трлн.

«Павелічэнне ўнутранага дзяржаўнага доўгу ў 2012 годзе ў асноўным абумоўлена эмісіяй дзяржаўных доўгатэрміновых аблігацый», — адзначылі ў Міністэрстве фінансаў.

Знешні дзяржаўны доўг па стану на 1 снежня 2012 года склаў $12,1 млрд. пры ўстаноўленым ліміце $14,3 млрд., павялічыўшыся з пачатку года на $289,9 млн.

«Павелічэнне знешняга дзяржаўнага доўгу ў 2012 годзе ў асноўным абумоўлена прыцягненнем крэдытаў МБРР, АКФ ЕўрАзЭС і банкаў Кітая», — паведамілі ў Мінфіне.

***БелТА***

# Браслаўскія азёры і пойма Шчары атрымалі статус тэрыторый, важных для птушак

**Браслаўскія азёры і пойма Шчары атрымалі міжнародны прыродаахоўны статус «Тэрыторыі, важнай для птушак» (ТВП), паведамілі парталу interfax.by у грамадскім аб'яднанні «Ахова птушак Бацькаўшчыны».**

Important Bird Areas (IBA) – гэта міжнародная праграма, якую праводзіць прыродаахоўная арганізацыя BirdLife International. Па ўсім свеце спецыялісты выяўляюць месцы рассялення рэдкіх і знікаючых відаў, вадаёмы, дзе збіраецца вялікая колькасць вадаплаўных і каляводных птушак, дзе птушкі адпачываюць і кормяцца падчас восеньскіх і вясновых пералётаў. У цяперашні момант на планеце вызначана 14 тысяч IBA.

Як растлумачылі ў аб'яднанні «Ахова птушак Бацькаўшчыны», Браслаўскія азёры маюць міжнароднае значэнне для захавання двух відаў птушак – вялікага краншнэпа і вялікага вераценніка.

Сваім новым статусам пойма Шчары (Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці) абавязана вяртлявай чарацянцы. Тут на асаковых нізінных балотах штогод рэгіструецца да 40 самцоў, якія співаюць.

Браслаўскія азёры і пойма Шчары сталі па ліку 50 і 51 тэрыторыямі, важнымі для птушак у Беларусі. Агульная плошча ўсіх ТВП складае больш 1,5 млн гектараў. Прычым вялікая частка важных тэрыторый засяроджана ў Прыпяцкім Палессі і Віцебскім Паазер'і.

*Крыніца: interfax.by*

# Праезд у цягніках падаражэе з 4 студзеня на 17%

**Папярэдні раз чыгунка даражэла ў ліпені, на 20%.**

Міністэрства эканомікі Беларусі пастановай № 90 ад 26 кастрычніка 2012 года на 17% павышае тарыфы на перавозкі пасажыраў і багажу чыгуначным транспартам ва ўнутрырэспубліканскіх маршрутах.

Пастанова апублікаваная сёння, 30 снежня, і ўступае ў сілу праз 5 дзён пасля апублікавання, з 4 студзеня 2013 года.



Нагадаем, што з 12 ліпеня 2012 праезд у цягніках унутрырэспубліканскіх зносін падаражэў на 20%.

*БелаПАН*



**Кліменцій Кожан,** выпускнік Шкунцікаўскай школы 1951 года, *м. Германавічы.*

# 150-гадовая гісторыя Шкунцікаўскай школы

## 1. Агульны стан адукацыі ў Беларусі ў складзе Расійскай імперыі.

Развіццё капіталізму ў Расійскай імперыі ў другой палове XIX стагоддзя патрабавала пашырэння народнай асветы, бо праца адукаванага чалавека была больш прадуктыўнай. Педагагічныя праблемы шырока абмяркоўваліся ў грамадстве. Прыкметна ўзрасла цікавасць да арганізацыі школьнай справы, педагагічнай падрыхтоўкі народных настаўнікаў, расшырэння школьнай сеткі, адкрыцця народных вучылішчаў за кошт дзяржавы. У Беларусі, у дадатак да ўсяго, разгарнулася барацьба за ўплыў на мясцовае беларускае насельніцтва. Польскія памешчыкі выступалі супраць адкрыцця дзяржаўных рускіх школ. Правячыя колы царскай Расіі лічылі адным з "добранадзейных сродкаў супрацьдзеяння польскаму нацыянальнаму элементу" неадкладнае заснаванне сельскіх школ з рускай мовай навучання. Прапаноўвалася весці справу "ў шырокіх памерах, энергічна, па загадзя вызначанаму плану".

Пасля падаўлення паўстання 1863 года ў Беларусі запанавала рэакцыя. Яна адбілася на развіцці народнай асветы і педагагічнай думкі ў другой палове XIX стагоддзя. Рэакцыйную школьную палітыку ў Беларусі праводзілі папячыцелі Віленскай вучэбнай акругі А.П. Шырынскі-Шыхматаў, І.П.Карнілаў, Б.Н.Бацюшкаў, Н.А.Сергіеўскі, якія надавалі школе асаблівае значэнне ў выхаванні народа ў духу праваслаўя і аддансці прастолу. Лічачы галоўным віноўнікам паўстання 1863 года польскае дваранства і адносячы да польскага ўсё каталіцкае насельніцтва Беларусі, царскі ўрад з мэтай ліквідацыі польскага ўплыву ў краі па ініцыятыве генерал-губернатара Мураўёва выращыў перш за ўсё выдаліць з усіх мясцовых дзяржаўных і навучальных устаноў асоб каталіцкага веравызнання і замяніць іх "добранадзейнымі" выхадцамі з унутраных губерняў Расіі, якія садзейнічалі б "распаўсюджанню праваслаўна-хрысціянскага вучэння і ўзбуджэнню ў народзе ўсведамлення, што ён рускі". Існаванне беларускага народа царскімі ўладамі не прызнавалася. Яго мова і культура ставіліся фактычна па-за законамі і выкараняліся як праяўленне паланізацыі. Справу народнай асветы ўрад у асноўным перадаў у рукі праваслаўнага духавенства. Паўсюдна адкрываліся царкоўнапрыхадскія школы і школы граматы.

Да школьных рэформ 60-х гадоў XIX стагоддзя ў Беларусі налічвалася 567 навучальных устаноў усіх тыпаў: 10 вышэйшых, 12 сярэдніх, 45 няпоўна-сярэдніх школ, 45 дзяржаўных і прыватных жаночых вучылішчаў і звыш 440 пачатковых школ. У іх навучалася каля 17000 навучэнцаў.

У 1856 годзе ў школе вучыўся толькі кожны двухсоты вучань, або 0,5% усяго насельніцтва. У канцы 50-х гадоў XIX стагоддзя адна сярэдняя навучальная ўстанова прыпадала на 287500, няпоўная сярэдняя – на 58480 і адна пачатковая – на 23310 чалавек. У пачатку 60-х гадоў XIX стагоддзя адкрываліся народныя пачатковыя вучылішчы, галоўным чынам на сродкі сялянскіх грамадстваў. Да 1862 года была адкрыта 101 школа, з іх у Віленскай губерні – 34 школы. На 1 студзеня 1864 года ў Віленскай вучэбнай акрузе было 389 народных вучылішчаў, з іх у Віленскай губерні – 82.

## 2. Пачатак – Ігуменаўскае народнае вучылішча.

У 60-80 гадах XIX стагоддзя на тэрыторыі Дзісенскага павета было адкрыта 26 народных вучылішчаў, у тым ліку 4 вучылішчы на тэрыторыі сучаснага Шаркоўшчынскага раёна: Ігуменаўскае і Лужкоўскае (1862), Стара-Шаркоўшчынскае (1863), Іёдскае (1869). Большасць школ Віленскай вучэбнай акругі ў гэты перыяд знаходзілася ў распараджэнні духоўнага ведамства, што вызначала змест іх вучэбна-выхаваўчай работы. У інструкцыях, распараджэннях аб рабоце школ і настаўнікаў папячыцелі акругі падкрэслівалі важнасць навучання Закону Божаму. Рэкамендавалася адкрываць кніжныя склады і праз іх прадаваць іконы, малітоўнікі, рэлігійныя кнігі. Вельмі мала ў школах было дзяўчынак. З 31000 навучэнцаў ва ўстановах Віленскай вучэбнай акругі ў 1866 годзе дзяўчынак было 2600 (8,4%).

## 3. Успаміны Міхася Машары.

Цікавыя звесткі пра Шкунцікі і народнае вучылішча ў дарэвалюцыйны час знаходзяцца ў кнізе Міхася Машары "Старонкі летапісу". Уявіце сабе: дзесьці ў глухім захалусці былой Віленскай губерні было не вельмі вялікае сяло, якое так і называлася – "Сяло Шкунцікі". У сяле, як і заўжды, было некалькі дробных яўрэйскіх крамак, вадзяны млын на рэчцы Паловіцы, што перасякала сяло. На гары злева – царква і збудаванні папа і дзяка. Каля іх вілася вузкая дарожка на касагорыстым беразе ракі, абсаджаная у два рады белымі бярозкамі. На супрацьлеглым узгорку, які аддзяляў ад першага зарослы цінай, лапухом і аерам ставок, стаяў вялікі прыземісты валасны будынак са спецыяльна пабудаванай пры ім "халоднай" для вясковых арыштантаў і з адрынай для коней паноў і паўпанкаў, якія наведвалі па справах воласць. А крыху далей за валасцю была Шкунцікаўская народная школа. Школа была руская, у ёй працавалі два настаўнікі. Воласць хоць і размяшчалася ў сяле Шкунцікі, але называлася Ігуменскай, відаць, таму, што сяло Шкунцікі межавалася з вялікім і багатым каліс маёнткам Ігуменава.

У народнай школе навучаліся дзеці з навакольных вёсак. Вучыліся ў той час не ўсе дзеці, і таму школьны раён быў вельмі вялікі. Для дзяцей, якія жылі ў аддаленых ад школы на 5-6 кіламетраў вёсках, была наладжана начлежка ў школе. Яна знаходзілася ў прыбудове. Уздоўж усёй начлежкі каля ўнутранай сцяны цягнуліся доўгія нары, разлічаныя на 12-15 вучняў. У кухні, дзе жыла вартаўніца, стаяла вялікая руская печ. У ёй вучні-начлежнікі гатавалі сабе стравы. У доўгія зімовыя вечары мы, "начлежнікі", як нас называлі вучні, якія прыходзілі з дому кожны дзень, размяшчаліся каля палаючай печкі, чыталі цікавыя казкі, апавяданні і вершы на рускай мове. Такія вячэрнія заняткі падтрымліваліся і настаўнікам".

## 4. У новым будынку.

У польскі час становішча народнай асветы ў Заходняй Беларусі было цяжкім і складаным. Польская дзяржава не была зацікаўлена ў пашырэнні асветы сярод беларускага насельніцтва, тым больш на роднай мове. У 1938 годзе ва ўсёй Польшчы працавалі толькі 69 беларускіх школ і адна беларуская гімназія ў Вільні. Мноства беларускіх школ было закрыта. Аднак польскі ўрад пад ціскам беларускага насельніцтва вымушаны быў адкрываць новыя школы, але яны былі ўжо не беларускія, а польскія і павінны былі стаць цэнтрамі распаўсюджвання польскасці на "крэсах усходніх". На тэрыторыі сучаснага Шаркоўшчынскага раёна былі пабудаваны пры польскай уладзе тыпавыя школы ў Слабадзе, Ямне, Ганопах (цяпер Стральцы), Падорцы, Боўкалах і Шкунціках. Школы будаваліся даволі хутка. 7 верасня 1937 года адбылося ўрачыстае адкрыццё новага будынка Шкунцікаўскай школы. На свята сабралася шмат вучняў і іх бацькоў. І вось ужо 75 гадоў у гэты прыгожы будынак з шырокімі вокнамі прыходзяць дзеці са Шкунцікаў і навакольных вёсак. Але вёскі ў наш час старэюць, дзяцей нараджаецца мала. Школы з невялікай колькасцю вучняў закрываюцца. У Шаркоўшчынскім раёне ўжо закрыліся школы польскай архітэктуры: Слабадская, Ямненская, Падорская, а сёлета Боўкалаўская і Сталіцкая, пабудаваные не так даўно. Шкада, што такія прыгожыя школы прыходзіцца закрываць.

У гады нямецкай акупацыі многія школы працягвалі працаваць, у тым ліку і Шкунцікаўская. Урокі вяліся на беларускай мове. Падручнікаў амаль не было, і настаўнікі карысталіся даваеннымі беларускімі падручнікамі, давалі сціслыя канспекты. Настаўнікі ў школе часта мяняліся.

## 5. Узгадаем дырэктараў і вядомых выпускнікоў.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны Шкунцікаўская школа была сямігадовай і называлася тады няпоўна-сярэдняй. У наш час гэта дзевяцігадовая базавая школа. Многае зрабілі для развіцця школы яе першыя пасляваенныя дырэктары: Філіп Усцінавіч Валожынак, Іосіф Георгіевіч Габовіч, Міхаіл Фёдаравіч Кірылаў. Пэўны час на пасадзе дырэктара школы працавалі Таццяна Станіславаўна Лаўрыновіч, Вера Генадзеўна Грыгаровіч. Даволі працяглы час працавалі дырэктарамі школы Зінаіда Паўлаўна Рабізя і Галіна Пятроўна Васілевіч. Усё жыццё Зінаіды Паўлаўны звязана са Шкунцікаўскай школай. Тут яна вучылася. Тут пачала працаваць настаўніцай рускай мовы і літаратуры, потым намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце. Дванаццаць гадоў працавала дырэктарам школы. Зінаіда Паўлаўна лічыць сябе шчаслівым чалавекам. З яе вучняў выраслі добрыя, працавітыя людзі. І самае галоўнае – большасць з іх настаўнікі. Гэта Рымдзёнак Васіль Васільевіч, Грыцкевіч Тамара Барысаўна, Васілевіч Анатоль Канстанцінавіч, Сяткоўская Таццяна Міхайлаўна і многія іншыя. І хоць Зінаіда Паўлаўна на пенсіі, але па-ранейшаму цікавіцца жыццём школы, ганарыцца сваімі калегамі і іх поспехамі.

Галіна Пятроўна Васілевіч шмат зрабіла для ўмацавання матэрыяльнай базы школы. Пад яе кіраўніцтвам дзейнасць педкалектыву школы была накіравана на вырашэнне галоўнай задачы школы – даць усім вучням трывалыя веды і выхаваць іх сапраўднымі патрыётамі сваёй Радзімы.

За ўсю гісторыю са Шкунцікаўскай школы выйшла шмат выдатных людзей розных прафесій. Так, выпускнікі 1951 года Герман Іларыёнавіч Кірылаў і Фадзей Ігнатавіч Савіцкі закончылі аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ у 1959 годзе. Герман Кірылаў стаў пісьменнікам, а Фадзей Савіцкі працаваў у розных выдавецтвах Мінска, працяглы час быў дырэктарам выдавецтва "Навука і тэхніка", стаў заслужаным работнікам культуры Рэспублікі Беларусь.

Многія выпускнікі школы сталі настаўнікамі: Галіна Уладзіміраўна Груздзіловіч, Глафіра Вячаславаўна Шкунцік, Таццяна Лявонаўна Паляк, Еўдакія Іларыёнаўна Кірылава, Іраіда Іванаўна, Леанід Іванавіч, Расціслаў Іванавіч Кожаны (з адной сям'і), Васіль Васільевіч Рымдзёнак і іншыя.

## 6. Сучаснасць.

Цяпер педкалектыў школы ўзначальвае Марына Віталеўна Толкач. Яна ганарыцца, што трапіла працаваць у школу з цікавай і багатай гісторыяй. Педкалектыў творчы, поўны жыццёвай энергіі. У школе створаны спрыяльныя ўмовы для ўсебаковага развіцця вучняў. Тут ёсць свае маленькія мастакі, спевакі, акцёры, паэты, журналісты, спартсмены. Адна з асноўных задач настаўнікаў – своечасова разгледзець задаткі і развіць іх, з чым яны паспяхова спраўляюцца.

Пад кіраўніцтвам настаўнікаў вучні вывучаюць гісторыю школы і навакольных вёсак. У школе праводзіцца шмат цікавых выхаваўчых мерапрыемстваў. Вучні ўдзельнічаюць у раённых, абласных, рэспубліканскіх конкурсах, на якіх займаюць прызавыя месцы. "Школе, настаўнікам, вучням ёсць чым ганарыцца", - лічыць дырэктар школы Марына Віталеўна Толкач.

Шкада, што, як і ў большасці сельскіх школ, колькасць вучняў цяпер невялікая, і Шкунцікаўскай школе са шматгадовай гісторыяй пагражае закрыццё. Калі закрыць Шкунцікаўскую і іншыя школы з невялікай колькасцю вучняў, то выміранне нашых маленькіх вёсак і вёсачак толькі паскорыцца. Але будзем спадзявацца, што гэтага не здарыцца.

Хочацца павіншаваць настаўнікаў і вучняў са 150-гадовым юбілеем Шкунцікаўскай школы, пажадаць усім добрага здароўя, плёну ў працы і вучобе.



Шкунцікаўская базавая школа, май 1990 г. Настаўнікі на фотаздымках злева направа: 1. Янушонак Зоя Аляксандраўна. 2. Грыгаровіч Вера Генадзеўна. 3. Захарыч Людміла Мацвееўна. 4. Мікулан Іван Іванавіч. 5. Рымдзёнак Яўгенія Станіславаўна. 6. Васілевіч Галіна Пятроўна. 7. Цітовіч Яўгеній Яўгеневіч. 8. Шаўчонак Галіна Браніславаўна. 9. Рабізя Зінаіда Паўлаўна. 10. Урбановіч Пётр Кліменцевіч. 11. Рымдзёнак Валянціна Мікалаеўна.



Настаўнікі на фотаздымку злева направа: 1. Барсаў Аляксандр Мікалаевіч. 2. Мікулан Іван Іванавіч. 3. Захарыч Людміла Мацвееўна. 4. Рабізя Зінаіда Паўлаўна. 5. Васілевіч Галіна Пятроўна. 6. Рымдзёнак Яўгенія Станіславаўна. 7. Рымдзёнак Валянціна Барысаўна.

